# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 42 (921) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 21 КАСТРЫЧНІКА 1973 г. ЦАНА 60 гр.


КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## Агароднікі

Агароднікі — вёска і хутары вакол яе, гміна і павет Бельск Падляшскі, знаходзяцца ў адлегласці каля 6—7 км на паўднёвы ўсход ад Бельска Падляшскага, на левым беразе рэчкі Арлянкі (левы прыток р. Нарвы). У Агародніках 86 гаспадарак і каля 350 жыхароў.

Паходжанне назвы гэтай мясцовасці не выклікае сумнення — побач з ёю знаходзіўся фальварак Гужыкі (Ужыкі). Помняць яго агародніцкія старажылы, захавалася таксама назва „Ужыкі“ (палетак і хутары на ім). У „Люстрацыі“ каралеўскіх маёмасцей ваяводства Падляшскага, складзенай у 1576 г., знаходзім, што фальварак Гужыкі належаў тады да староства Бельскага. „ Да гэтага фальварку належыць агароднікаў 22, — чытаем там жа, — кожны мае зямлі па 6 моргаў, з якіх нічога не плоцяць, толькі 2 дні ў тыдні на работу пеша ходзяць, а летам з чым загадаюць да жніва або да палаცця“. З таго ж дакумента даведваемся, што гаспадарка ў фальварку не была надзвычайная. Праўда, у 1575 г. у ім нажалі: жыта коп 686, пшаніцы азімай — 130, пшаніцы ярай — 95, ячменю — 55, аўса — 286, грэчкі — 25 і гароху коп 22, сена накасілі 7 абарогаў і 2 стагі, разам вазоў 240, але ў хлявах было ўсяго: кароў дойных 5, цялят 3, ялавіц 4, ялошак 2, быкоў было таксама 2, але падохлі, свіней 16. У канцы пісар заўважае: „У гэтым фальварку Гужыках бывалі лепшыя ўраджаі збожжа рознага і могуць быць пры лепшым гаспадараванні ў будучых гадах“.

Пры тых жа Гужыках пісар аднатоўвае „млын на рацэ Орляй... пры тым млыне сажалка вялікая, спуставая, пабудаваная коштам яго каралеўскага вялічаства Зыгмунта Аўгуста“.

Мясцовыя назвы: Сэло, Ужыкі, Голодуовшчына, Бэрэстовка, Пуодлугом, Міжылужэ, Пісковатое, Магазыніско.

Некаторыя прозвішчы жыхароў: Анішчук, Ануфрыюк, Багамаз, Багінскі, Барысюк, Вакулеўскі, Галёнка, Гардзяюк, Грыгарчук, Дзянісюк, Заброцкі, Здрайкоўскі, Іванюк, Каменскі, Карпюк, Карнацэвіч, Кацянка, Лаўрэнюк, Міхалюк, Міхальчук, Наказнік, Падольскі, Паўлючук, Перавой, Ручай, Скепка, Стральчук, Сяргеюк, Швед, Юрчук, Якімюк, Ясвіловіч.

Агародніцкі старажыл Сцяпан Багінскі (1884 г. нараджэння), дзед якога быў арганістам ва уніяцкай царкве ў Пасынках, прыгадвае, што каля гасцінца на палетку Пісковатое калісьці знаходзіўся каменны крыж, а сяляне там доўгі час знаходзілі людскія косці.

Дзед расказваў яму, што пераход тутэйшага насельніцтва з уніі адбываўся бельмі паволі і з супраціўленнем людзей. Калі пасынкаўскі святар Адам Кастыцэвіч, што першы перайшоў з уніі ў праваслаўе, заехаў у Старое Беразова (цяпер Гайнаўскі павет), каб намаўляць сялян на праваслаўе, дык тамашнія сяляне схапілі яго і завалаклі на званіцу

Працяг на стар.4



*У сям'і Васіля Грыгарчука ўсе любяць механізацыю, але найбольш — Андрэйка, які пасля заканчэння пачатковай школы збіраецца ў сельскагаспадарчы тэхнікум.*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

**50 год КПЗБ ● Закаханы ў сямяціцкі пейзаж ● Свінапас з машынай ● Беластоцкая ярмарка ● Жыла-была ў Гарадку бабулька ● Ліст з Задрыпанкі ● Плашчы на „баб'е лета“ ● Весткі з Пяньkoў, Белавежы, Патокі, Паўлаў, Шудзялава, Старога Корніна, Грыгораўцаў і інш. ● Адказ акруговай дырэкцыі ПКП у справе пабудовы станцыі ў Белавежы ● Вершы ліцэістаў з Бельска і Гайнаўкі ● Песня з рэпертуару Е. Паломскага: „Bo z dziewczynami“.**



Ціха сцелецца, сцелецца
Ліст на ліст у гаях,
Залатая мяцеліца
Шалясціць на дубах.

Замяла рыжаватыя
Верасы, паплавы.
З песняю сумнаватаю
Нада мной журавы

Павуцінкаю ў просіні
Праляталі, плылі.
Ах, даспелае восені
Ім шкада на зямлі.

Восень пахне атаваю,
Прэсным лісцем бяроз.
Восень з добраю славаю
Заручыла свой лёс.

Расцягнула гармонікі —
Іскры ў яркіх мяхах,
Аж на вільчыках конікі
Б'юць у гонтавы дах;

Карагоду вясельнаму
Круг шырокі дае,
Завяршае арцельныя
Восень справы свае,

Абыходзіць аселіцы,
Сотні вуліц, двароў.
Залатую мяцеліцу
Асыпае з дубоў.

**Антон Бялевіч**
фота **Я. Цялушэцкага**

**(З РОЗДУМАЎ СЫМОНА МУДРАГА)**

Добры дзень“ — гэтак я сказаў, даражэнькія, уваходзячы да сваяка, які жыве з сям'ёй у Гарадку і наймае невялікі пакойчык за вялікія грошы. Бачу, не чуе той. Абхапіўшы жонку, прытанцоўвае па хаце, паддзыгаючы, як разбрыканы казёл. Абое шчасліва смяюцца. Дзеткі іхнія, таксама весела шчабечучы, блытаюцца ў іх пад нагамі. Прышлося раз і што каму і тады толькі: „Падай, дзядзька, цэглу“ — „Мясі, цётка, вапну“.

Так што трэба спяшацца, бо найпазней недзе ў маі прыдзецца ўжо фундамент заліваць. Крыху сваіх ашчаднасцей ёсць, крыху бацькі памогуць, а рэшту „добрая цёценька“ каса СОП-у дапазычыць. Няма што. Як па масле пойдзе будова.

Пляменніка з надмеру шчасця аж ікаўка схапіла. І не дзівота. Свой уласны домік. Падумаць толькі. Прастор дзецям, парадак і чысціня гаспадыні, раз-




другі кашлянуць, пакуль мяне заўважылі.

Што гэта, пытаю, у вас за свята сёння? Да Вялікадня, здаецца, яшчэ далёка. А, можа, у латарэю якую выйгралі ці ў тота-лотка? Надта ж вы ўсе нейкія радыя.

Ну, мяне, вядома, адразу за стол. Тоесёе перакусіць і таго-сяго... ну, таго, якога мая жонка не любіць — таксама паставілі. Пасадзілі, самі кругом пасядалі і ўсе навасці выкладваюць.

І адразу, наперабой, гмінны ўрад хваляць. Ай-яй-яй. А якія людзі! А так спраўна ўсё афармляюць. Уявіць сабе толькі. Не паспеў у сакавіку гэтага года банк паведаміць, што можа прадаць 30 дзялянак пад індывідуальную забудову, а яны ўжо тут як тут. Адшукалі ўсе прашэнні, хуценька разгледзелі і адразу паводле чаргі і патрэбы нарэзалі кожнаму і на хатку і на хлеўчык і нават на гародчык. Адным словам, бяры і будуй сабе і грамадству на пацеху. Мала таго. Каб людзі маглі яшчэ выкарыстаць леташні будаўнічы сезон, хуценька перадалі справу ў павятовую геадэзію. Ну, і як тут не радавацца?

Геадэты, што? Прыедуць, вымераюць мах гаспадару. Гэта табе не якісьці там наняты пакойчык, у якім не то што людзям, а кату нават цесна.

Вяртаюся дахаты і раздумоўваю. Многа не гаворачы, проста, ведаеце, хочацца жыць. Калі бачыш імкненне да лепшага, калі растуць дамы, калі людзі працуюць, сябе не шкадуючы, і як дзеці сваёй жа працай цешацца, тады быццам бы весняным ветрыкам павеяла і адразу кроў жвавей бурліць у жылах. Самаму да работы рукі засвярбелі. Упраўлюся, думаю, з сенакосам і перад жнівамі пад'еду, памагу пляменніку, сваю, так сказаць, лапату ў ягоную сямейную будучыню дакіну.

Ад думкі да справы ў мяне нядоўга. У чэрвені я ізноў у Гарадку. Заходжу да сваіх, а ўсе, ях хмары надутыя, парассядаліся.

Што гэта вы, кажу, рукі паразвешвалі? Я тут памагаць прыехаў, думаў вас пры працы застаць, а вы, бачу, не спяшаецеся. О не! Гэтак вы, міленькія, да зімы хату не пакрыеце. А ну збірайцеся! Паказвайце, дзе і што там у вас ужо зроблена!

(Працяг на стар. 4)

## ВУЧЫМСЯ АШЧАДНАСЦІ

Месяц кастрычнік ужо традыцыйна аб'яўляецца **„Месяцам прапаганды ашчаднасці“**. Мы прывыклі да гэтага і заўсёды чакаем, напрыклад, „Конкурсу 300“, які кожны год наладжвае ПКО. У гэтым годзе ўдзельнікаў „Конкурсу 300“ чакае 10 аўтамабіляў, 5.800 вартасных бонаў, 3.900 сярэбраных манет, кожная вартасцю ў 100 зл. і шмат іншых каштоўных узнагарод на суму 3 мільёны 400 тысяч зл. Дык спрабаваць варта, тым больш, што ўдзельнік конкурсу не траціць ані залатоўкі.

Так, да гэтага мы ўжо прывыклі. Але вось, што цэнтральныя ўрачыстасці з нагоды адкрыцця „Месяца ашчаднасці“ адбыліся менавіта ў Беластоку — гэта прыемная нечаканасць. Чаму так сталася? Міністр Ендрыхоўскі тлумачыў гэта наступным чынам:

„...Беласточчына ў апошнім часе дабілася значна вышэйшай дынамікі прыросту ашчаднасцей, чым іншыя раёны краіны. Памяншаецца дыстанцыя, адзяляючая Беласточчыну ад раёнаў з высокім узроўнем адложаных у ПКО ашчаднасцей. Беластоцкае ваяводства за апошні год шматзначна павысіла сярэднюю суму ашчаднасцей, прыпадаючых на аднаго жыхара. Ніколі дагэтуль не наглядалася тут такога зацікаўлення ашчаднасцю“.

— Варта дадаць, — гаварыў далей міністр, — што высокі прырост ашчаднасцей наглядаецца таксама і ў спулдзельчых банках. Гэта, між іншым, вынік устанаўлення новых форм ашчаднасці, спрыяючых вясковаму насельніцтву. Прыгадаем для прыкладу ўвядзенне ашчадных кніжак, прэміяваных трактарамі. Беластоцкае ваяводства займае зараз другое месца ў краіне па колькасці гэтага тыпу ашчадных кніжак.

Яшчэ варта паслухаць, што пра нас гаварыў Э. Валяшчык — галоўны дырэктар ПКО.

„Не без прычыны адкрываем сёння агульнадзяржаўны „Месяц ашчаднасці“ менавіта ў Беластоку. Беласточчына аб-

(Працяг на стар. 4)

# НАРОДНАЕ, ЗНАЧЫЦЬ — ЛЮБАЕ

Вырабы народных умельцаў з Польшчы, што мы звычайна называем „цэпэльеўскімі“, карыстаюцца значным попытам у многіх краінах свету, асабліва ў Злучаных Штатах Амерыкі, у Англіі, Бельгіі, Францыі, Канадзе. За мяжой спрос на іх з кожным годам узрастае, і яны складаюць хоць і невялікую, але ўсё ж прыкметную долю нашага экспарту. Асноўная частка народных мастацкіх вырабаў усё ж знаходзіць пакупнікоў у нашай краіне. Найбольшымі цэнтрамі гандлю цэпэльеўскімі вырабамі з'яўляюцца Варшава, Кракаў, Познань, Катавіцы. У Беластоку таксама ёсць два вялікія спецыялізаваныя магазіны вырабаў народных умельцаў на вул. Ліповай 18 і Астроўскага 3. Яны штодзённа абслугоўваюць сотні кліентаў.

— А як ідзе продаж?

Адказваюць кіраўнікі магазінаў А. Варатынская і З. Падрак.

— Не наракаем. Абодва нашыя магазіны ў месяц у сярэднім прадаюць тавару на 2 мільёны злотых і попыт усё ўзрастае. Два гады таму назад у аддзеле сувеніраў было ўсяго 2—3 тысячы абароту ў дзень, сёння ён даходзіць да 40 тысяч.

— Якія вырабы карыстаюцца найбольшым попытам?

— Беластачане найбольш купляюць кераміку (данічкі, вазы, падстаўкі і г.д.), дзвюхасноўвыя макаткі, накрыцці на стол (абрусы, сурветкі), накрыцці на ложкі і тапчаны, падушкі, дарожкі, сувеніры, каўры з футра. Словам, амаль усё, што прапануюць нашыя вытворцы, знаходзіць пакупнікоў.

— Што з вырабаў народных умельцаў Беласточчыны ідзе найлепш?

— Перш за ўсё — вырабы з саломы: маты, карабкі і іншыя саламяныя пляцёнкі. Прадаем мы іх у сярэднім на 200 тысяч злотых у месяц. Затым розныя збаны, так званыя „сівакі“ розных памераў, ходнікі, дарожкі, макаткі, пляцёнкі з лазы. Па вырабы народных мастакоў Беласточчыны прыязджаюць людзі з Познані, Кракава, Вроцлава. Вельмі многа іх купляюць замежныя турысты і госці, што наведваюць наш рэгіён.

З гэтага маленькага інтэрв'ю вынікаюць аптымістычныя вывады. Значыць, вырабы народных умельцаў усё больш актыўна ўваходзяць у наш штодзённы быт, трапляюць на самыя пачэсныя месцы ў нашых кватэрах. Праўда, часта выхадцы з вёсак, якія нядаўна яшчэ жывуць у гарадах, недаацэньваюць мастацкай каштоўнасці народных вырабаў па той прычыне, што яны быццам бы „простыя“, „вясковыя“. У такіх людзей нейкі час пераважае пагоня за гарадскім „люксусам“. Але з бегам год і ў іх густах наступаюць перамены на карысць народных вырабаў. Усё гэта даказвае яшчэ раз вядомую ісціну — вырабы народных умельцаў заўсёды будуць карыстацца попытам у грамадстве.

**І. С.**

Фота аўтара.



*Павільён Цэпэліі на вул. Астроўскага 3 у Беластоку. У ім знаходзяцца гандлёвы магазін і пастаянная выстаўка ўзораў вырабаў народных умельцаў Беласточчыны.*




# АНТОЛЬКА

З гэтым імем звязана адна з яркіх старонак гісторыі рэвалюцыйнага руху на Беласточчыне. „Антолька“ — асноўны псеўданім Сафіі Панкавай (за гады падполля мела яна 15 партыйных клічак) — была сакратаром Беластоцкага акруговага камітэта КПЗБ. Па загаду ЦК КПЗБ прыбыла яна ў Беласток у разгар перадвыбарчай кампаніі 1928 года. Выбарам гэтым кампартыя адводзіла асаблівую ролю, мелі яны стацца зваротным пунктам у барацьбе за ўплывы, і назначэнне Панкавай на беластоцкую акругу, адну з прамысловых у полі дзеяння КПЗБ, было для маладой рэвалюцыянеркі строгім экзаменам.

У акрузе налічвалася шаснаццаць раённых камітэтаў партыі. Адзін з іх ужо з першых дзён прабывання Панкавай у Беластоку поўнасцю прыкаваў яе ўвагу. У Белавежскім раёне ўспыхнула забастоўка на лесапільных заводах, і раённы камітэт партыі прасіў аказаць дапамогу ў кіраўніцтве гэтай забастоўкай. Панкава неадкладна адпраўляецца ў Белавежу. Тут, на кватэры Аляксандра Мазырко праводзіць першае ва ўмовах падполля пасяджэнне райкома партыі, выходзіць з ініцыятывай арганізацыі матэрыяльнай дапамогі бастуючым і стварэння дружыны для барацьбы са штрайкбрэхерамі, праводзіць начную гутарку з жаночым актывам (ведае, што часта забастоўкі выйграваюць або праігрываюць жоны рабочых), выступае на мітынгу бастуючых, засноўвае ў Новаберазове раённую рэдакцыю.

Белавежская забастоўка абагачае Панкаву вопытам і новымі, вернымі сябрамі. Сярод іх Ольга Габец — сакратар райкома і Аляксандр Мазырко, імя якога ў трыццатых гадах стала ў КПЗБ сімвалам вернасці справе, нязломнасці ў барацьбе.

Панкава ведае просты народ і ў яго гушчы становіцца для дэфензівы няўлоўнай „Таняй“. Адзін са шматлікіх эпізодаў. Вёску ў Гайнаўскім раёне, дзе была Панкава, акружыла паліцыя. Пачалася паверка. Праз вакно бачыць Сафія, ідуць да „яе“ хаты двое паліцэйскіх. Апрача яе ў хаце нікога няма: гаспадыня доіць карову, у печы даварваецца бульба для свіней, ля парога карыта... Увайшоўшы ў хату, паліцыянты ўбачылі звычайную вясковую бабу з забруджаным сажай тварам, з выбіўшыміся з-пад хусткі валасамі. У клубах пару яна таўкла ў карыце бульбу. Паліцыянты, гідліва зморшчыўшыся, пакідаюць хату.

А „Таня“ ездзіць па цэлай акрузе, яе слова яднае людзей, кліча на барацьбу. І калі на партканферэнцыі стала пытанне, каго паслаць на першы з'езд КПЗБ, Ольга Габец прапанавала: лепшага прадстаўніка ад беластоцкага пралетарыята, чым наша „Таня“, быць не можа.

Прапанова была прынята аднадушна. Відаць, не выпадкова кандыдатуру Панкавай паставіла Ольга Габец. Белавежская забастоўка адбілася шырокім рэхам у цэлай акрузе і ў ходзе падзей вырас аўтарытэт яе правадыроў. Не выпадковая, відаць, і значная роля Ольгі Габец у падрыхтоўцы і правядзенні партканферэнцыі. Белавежа займае таксама асаблівае месца ў выступленні Панкавай на І з'ездзе КПЗБ.

Рамкі „Нівы“ не дазваляюць далей прасачыць шлях адной з нештодзённых постацей беларускага рэвалюцыйнага руху, зацікаўленых адсылаю да абшырнага адрэзка кнігі Васіля Лясковіча п.з. „Антолька“, апублікаванага ў 8 нумары „Нёмана“. Хоць, напэўна, паўнейшага вобразу трэба будзе пачакаць да выхаду самой кнігі.

**Г. Валкавыцкі**

**СПРАВА І.**

І ў гэтым годзе бульба ўрадзіла нядрэнна. Сялянам хапае, а лішнюю можна прадаць па добрай цане.

У Дубічах Царкоўных ужо адкрыты пункт скупкі бульбы. Сяляне адусюль, з цэлай Гайнаўшчыны, прывозяць сюды прадаваць яе: Цана: першы гатунак — 130 зл. за цэнтнер, другі гатунак — 105 зл. за цэнтнер. Гэтак прадаецца некантрактаваная бульба. Але сёння і кантрактацыя працвітае, кожны селянін ведае карысць з кантрактацыі і не трэба сёння замнога агітаваць яго да гэтага.




Горш маецца справа з мяшкамі для бульбы. Каб прадаць бульбу, трэба мець мяшкі з ГС-у. А дастаўляюць іх не так часта і не так многа, каб усім хапіла. Сяляне стаяць у чарзе па мяшкі.

Сяляне крыху лаюцца ў нас, што ў гэтым годзе выступаюць цяжкасці з продажам бульбы. Яна цяпер, праўда, бывае не надта чыстая, трохі лупіцца і таму ўсю яе пхаюць у другі гатунак. Для першага класа трэба мець бульбу сухую і прыгожую, як яйцо.

**СПРАВА 2**

У мінулым годзе ўвосень таксама працаваў у Дубічах Царкоўных пункт скупкі бульбы. Многія не тут і прадавалі. Мяшкі атрымлівалі на месцы — за распіскай, і таксама за распіскай аддавалі гэтыя мяшкі, ужо з таварам — бульбай.

А вось, на табе! Год часу прайшло, і кожны селянін, які меў тады дачыненне з бульбай і мяшкамі, атрымлівае зараз пісульку з ГС Кляшчэлі, каб прыязджаць да іх і разлічвацца за мінулагоднія мяшкі. Яны, у ГС-е, аказваецца, па іхняму разліку, яшчэ запісаны на гаспадароў. Добра, калі селянін захаваў квіт здачы мяшкоў з бульбай (толькі так трэба з квітанцыямі паступаць), тады лёгка дакажа кляшчэлеўскаму ГС-у яго непарадкі, але, калі квіт загінуў — дык дуйся, чалавеча! Накруцілі ў тым ГС-е ўсякай-усячыны, а селянін няхай выкручваецца.

Пара пакончыць з бюракратыяй у ГС Кляшчэлі!

Пакуль гэты артыкул мой будзе надрукаваны, некаторыя справы мо крыху ўладзяцца. Трэба аднак, каб шкодныя з'явы ўвогуле як найменш выступалі. А бульба будзе прадавацца на дубіцкі пункт скупу яшчэ цэлы кастрычнік, а мо і далей.

**М. Панфілюк**

**„БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-73“**



*Удзельнік фінальнага агляду Юрка Харкевіч з Ляшукоў Гайнаўскага павету.*
*Фота А. Карпюка.*

# БГКТ ХРОНІКА

■ З нагоды 30-годдзя Людовага Войска Польскага многія гурткі БГКТ праводзяць у сваіх мясцовасцях урачыстыя вечарыны і сустрэчы з салдатамі і афіцэрамі нашай арміі. Вельмі цікава прайшла сустрэча ў Беластоцкім павеце ў суботу 6 кастрычніка г.г. у Новай Волі з маёрам Е. Пэтэльскім. Прысутнічала каля 100 асоб.

■ Гарадоцкі беларускі хор з багатай праграмай выступіў 30 верасня г.г. у Залуках Беластоцкага павету. Урачыстасць была прысвечана 30-годдзю ЛВП.

■ Дэманстрацыя савецкага фільма „Гадзіннік спыніўся апоўначы“, якая адбылася 30 верасня г.г. у глядзельнай зале ГП БГКТ у Беластоку, выклікала жывое зацікаўленне сярод членаў гарадскога беластоцкага аддзела нашай арганізацыі.

■ Распачатая ў канцы верасня г.г. у гуртках БГКТ справаздачная кампанія спрыяльна ўздзейнічае на ажыўленне арганізацыйнай і культурна-асветнай працы ва ўсім нашым таварыстве. Праводзячы ацэнку дагэтуляшняй сваёй дзейнасці, многія гурткі прымаюць амбітныя праграмы далейшай працы, выступаюць з ініцыятывай грамадскіх прац на карысць сваёй мясцовасці, прымаюць новых членаў, аплочваюць датэрмінова членскія складчыны за 1973 год. Складчыны поўнасцю аплацілі Міхалова, Баброўнікі, Гарадок, Плёскі, Пасынкі, Малочкі. Найлепш аплачвае складчыны сямяціцкі аддзел БГКТ.

■ Аўтар зборнікаў прозы „Загоны“ (на беларускай мове) і „Вялікі горад Беласток“ (на польскай мове) Сакрат Яновіч сустрэўся з чытачамі ў нядзелю 14 кастрычніка г.г. у клубе гарадскога аддзела БРКТ у Беластоку, вул. Варшаўская 11. У праграме сустрэчы — чытанне новых твораў, адказы на пытанні слухачоў, дыскусія.

■ Нядаўна Галоўнае праўленне БГКТ атрымала з Міністэрства унутраных спраў дадатковы грашовы фонд у суме 99 тысяч 500 злотых на пашырэнне культурнай дзейнасці нашага таварыства. За гэтыя сродкі ўжо пашыты касцюмы для членаў беларускага хору ў Белавежы (кошт іх склаў звыш 33. тысяч злотых). Здадзены ў пашыў касцюмы для членаў беларускіх хораў у Плёсках і Дубяжыне. За сродкі, якія застануцца ад аплаты гэтых абсталюнкаў, будуць куплены музычныя інструменты.

■ Бібліятэка гарадскога аддзела БГКТ налічвае звыш 4 тысяч тамоў. Яе збор з кожным годам павялічваецца. Нядаўна ў бібліятэку паступілі новыя папаўненні, сярод якіх знаходзіцца значная колькасць выданняў мастацкай і навуковай літаратуры, нядаўна выпушчаных у друку ў Беларускай ССР. Усіх ахвотных запрашаем да карыстання з бібліятэкі. Яна адкрыта ва ўсе дні тыдня, апрача панядзелка, з 18 да 22 гадзін вечара. Кнігазборам можна карыстацца на месцы ў чытальні, а таксама пазычаць кнігі дадому.

(іс)

 




На двары стаіць глыбокая восень, удзень паветра вострае, халоднае, а вечары становяцца ўсё даўжэйшымі. Часта ў такі вечар сядзім мы цэлай сям'ёй ля тэлевізара і ўглядаемся ў шкляны экран.

Сённяшні вечар зусім іншы. У наш дом завітала бабуля з вёскі, гэта значыць мая маці. У хаце павеяла колішнім, вясковым. Размове не было канца. Мне хацелася ведаць аб усім і ўсіх. Не агледзеліся мы, як з'явілася перад намі мая наймалодшая дачушка Гражынка, трымаючы ў руках альбом са здымкамі. Каб уключыцца ў нашую размову, яна сказала:

— Мама, давай пераглянем гэтыя здымкі, яны такія цікавыя, тут і бабуля ёсць, і дзядуля, і ўсялякія іншыя людзі, толькі малодшыя ад сённяшніх.

Я збыла ўсё адным словам „адчапіся“ і далей пачала распытваць маці.

— Мама, — ізноў адазвалася дачушка, — а што гэта за маладуха на гэтым вось здымку?

— Як гэта хто? Гэта ж я, не пазнаеш сваёй мамы?!

— Та-а-к, — адказала здзіўленая Гражынка. — Мама, раскажы нам яшчэ раз пра сваё вельмі ж цікавае ды смешнае вяселле, хай і бабуля паслухае, якое было тваё вясковае вяселле, гэта не тое, што ў цёці Валі.

Мы з маці пераглянуліся і нязначна ўсміхнуліся. Аднак і бабця і дачушка добра ведалі, што я люблю ўспамінаць свае мінулыя вясковыя гады, сваю вёску, сваіх людзей. Яны бліжэй прысунуліся да майго крэсла і, звярнуўшы свой зрок у мой бок, чакалі.

—Было гэта дваццаць год таму назад. Жылі мы тады на вёсцы, і я і твой тата, — звярнулася я да дачушкі. — Быў прыстойны, прыгожа танцаваў, вельмі прыгожа зацягваў „Ой, рэчанька, рэчанька“... Пакахала я яго, хоць быў бедны, бацька яго перад вайной працаваў батраком, не паспеў яшчэ чагосьці больш прыдбаць.

— Не наракай толькі, — раптам адгукнулася маці, — мяне сілай выпхнулі замуж за твайго бацьку, хоць я яго ненавідзела цэлае жыццё, прасці божа, а таму аддалі, што меў 2 гектары зямлі, сваёй зямлі... А цяпер маю дзесяць гектараў, толькі дзеці паўцякалі ў горад, бо вучоныя, а ты, старая, сама бегай за трактарам у кулка і прасі дапамогі.

— Не перарывай, мама, — сказала я і пачала працягваць. — Вяселле маё адбывалася амаль тыдзень — у суботу пачыналася паненскім вечарам, а ў чацвер канчалася гасцінай у цесцяў, каб адпачыць у пятніцу і суботу і ізноў ісці ў гасціну да сваіх бацькоў. Помніш, мама, як я ішла дамоў у суботу, не могучы больш вытрываць у чужой хаце, а старая Панчыха перапыніла мяне на вуліцы ды пачала крычаць:

— Божанька мой, а хто ж то бачыў, каб маладзіца перад нядзелькай ішла да сваёй роднай хаты, ой, дзетачка, саграшыш ты, пабачыш, што вернешся ты да бацькоў назаўсёды, штосьці напэўна злое станецца... А як бачыш, мама, мне не так ужо і дрэнна паводзіцца, ды і муж не пакінуў, — усміхнулася я.

— І не бедна жывецца табе, „Трабанціка“ маеш, а помніш, як ты забылася перад шлюбам улажыць у туфелькі грошы, каб быць багатай, — з задавальненнем дадала маці.

— Мама, а раскажы, як ты на шлюбе наступіла нібы не хочучы на нагу таце, каб быць у сям'і важнейшай ад бацькі, і каб ён цябе слухаўся ва ўсім і заўсёды, — уставіла дачушка.

Мы ўтраіх зарагаталі, бо на жаль, не споўнілася і гэта.

А я ўспамінала:

— Маладуху везлі ўначы ў хату жаніха, а разам з маладой старшы сват забіраў курку-прыданку, прыгожа абвязаную чырвонай стужкай. А там сустракалі цесці маладых з соллю і хлебам. Помню, як я сама, яшчэ будучы падлёткам, чакала з сяброўкамі і старэйшымі бабамі пад акном у маладога, каб пабачыць, як маладуха ўвойдзе ў хату і сыпне цукеркамі на ўсе чатыры куткі; а потым малады выкупляў месца з кажухом для сваёй маладой жонкі, ды купляў курыцу, якая сядзела за сталом разам з вясельнікамі і з перапуду кудахтала. Маладуха не магла легчы спаць, пакуль старэйшы сват не скіне з ног дзяўчыны панчох, зразумела, за гэта ён атрымоўваў грашовую заплату ад маладога мужа. А рана-раненька будзілі маладых з печанай яешняй і паўлітроўкай, ды пры тым падлівалі вадой іх пасцель.

— Мама, а бач, на вяселлі ў цёці Валі, калі дарылі падарункі, віном абліў гасцей толькі той вусаты дзядзька. А як смешна танцавалі абмотаныя падарункамі цёця Гандзя і дзядзя Іван!

— Ну так, цяпер „перапіваюць“, выліваючы віно за плечы на гасцей, толькі старэйшыя людзі, якія берагуць свой даўні не вельмі талковы звычай, не зважаючы на дарагія крэмпліны. Абсалютна забылі і той звычай, калі ў панядзелак ехала пэразва ў гасціну да маладога, прывозячы пасаг маладухі ў вялікім куфры, на якім сядзеў вясельнік і трымаў на высокай тычцы чырвоны сцяг, каб усім абвясціць, што едуць „дарагія“ госці. Але вось уехаць на панадворак было не так то лёгка. Вясельнікі жаніха рабілі брамку на панадворку, а пры брамцы высока ў гары вешалі на палцы чучала накшталт чалавека і спрытна прычэплівалі торбу з попелам ці вядро вады. Калі толькі пэразва ўязджала, цягнулі за шнуркі, а на вясельнікаў, як у навальніцу, лілася вада, або сыпаўся попел.

— Ай, цяпер людзі паразумнелі, такога звычаю няма чаго і шкадаваць, — адгукнулася ўжо сонная бабуля.

Муж, які вярнуўся з камандзіроўкі, перарваў нашы ўспаміны і мы, звычайна павячэраўшы, леглі спаць. Усе хутка паснулі, толькі я доўга блукала па даўнейшых сцежках маладога вясковага жыцця, чуючы ўсё цішэй словы вясельнай песні:

Ой дэ ж ты едэш?
До шлюбу, до шлюбу.
Ой, чом нэ плачэш?
Нэ буду, нэ буду.

**Н. Андрэюк**

# ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## МІХАСЬ КРАСЬКО



Міхась Красько з вёскі Ягаднікі Гайнаўскага павету — перадавы жывёлавод Гайнаўшчыны. Вядзе ён 15-гектаравую гаспадарку. У рамках кантрактацыі прадае дзяржаве больш 3 тон збожжа і 15 тон бульбы (вырошчвае жыта „данькоўскае“ і бульбу „флісак“). Гадуе 13 кароў, 20 свіней і 32 авечкі. Вядомы ён у ваяводстве як адзін з лепшых каняводаў. Яго жарабцы сакольскай пароды займаюць найлепшыя месцы на ваяводскіх аглядах жарабцоў. Яго каню прысудзілі сярэбраны медаль і грашовую ўзнагароду. Тайну гадоўлі такіх удалых коней пераняў ад бацькоў.

Сёлета Міхась Красько пабудаваў вялікую сучасную абору, якая займае 200 квадратных метраў. Намераны ён павялічыць жывёлагадоўлю. Заняў чаргу на прыдзел трактара, пры дапамозе якога будзе лягчэй выконваць усе палявыя работы.

Міхась Красько выконвае рад адказных грамадскіх функцый. Ён старшыня павятовага аб'яднання каняводаў і шматгадовы старшыня мясцовай пажарнай каманды. За добрыя поспехі ў жывёлагадоўлі і грамадскай дзейнасці Міхась Красько ўзнагароджаны Бронзавым Крыжам Заслугі.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

*СЯМЕЙНАЯ*

Andante












*Стоіт ліпа зэлёная, пуд ёю — вода.*
*— Молодая молодіця, чом долі нэма?*
*Молодая молодіця, чом долі нэма?*
*— Была ж у мэнэ добра доля — маті прокляла,*
*За ліхого мэнэ мужа замуж оддала.*
*За ліхого мэнэ мужа замуж оддала.*
*Клічэ маті вэчэраті — вэчэрай сама,*
*А я пойду піть-гуляті до біелого дня.*
*А я пойду піть-гуляті до біелого дня.*
*Пэршы куры заспівалі — я ў корчомці п'ю.*
*Другі куры заспівалі — я й нэ думаю.*
*Трэті куры заспівалі — я з корчомкі йду,*
*Судосіла діевіерыка ў вішнёвум саду.*
*Судосіла діевіерыка ў вішнёвум саду.*
*— Братовая молодая, дэ жэ ж ты была?*
*— Діевіерыку-соколіку, — у корчомці піла!*
*Діевіерыку-соколіку, — у корчомці піла!*
*— Братовая молодая, жаль жэ мніе тэбэ:*
*Наготовіў твой міленькі нагай на тэбэ!*
*Наготовіў твой міленькі нагай на тэбэ!*
*— Діевіерыку-соколіку, бороні мэнэ!*
*Ест у мэнэ пас едвабны — будэ для тэбэ.*
*Ест у мэнэ пас едвабны — будэ для тэбэ.*
*Чуе тое мой міленькі, у коморы спячы;*
*— З кім ты, міла, говорыла, з корчомкі йдучы?*
*З кім ты, міла, говорыла, з корчомкі йдучы?*
*Ест у тэбэ пас едвабны, то я сам сходжу,*
*А я твое біелэ лічко нагаём спішу!*
*А я твое біелэ лічко нагаём спішу!*
*— О, бодай ты, мой міленькі, того нэ дождаў,*
*Коб ты мое біелэ лічко нагаём спісаў!*
*Коб ты мое біелэ лічко нагаём спісаў!*

Ад Анны Стахвіюк, 1924 года нараджэння, вёска Трасцянка Гайнаўскага павету, запісаў 2 жніўня 1973 года Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіла Людміла Панько.

# Дзернякова хоча жыць культурней

Вёска Дзернякова Беластоцкага павету знаходзіцца ў пяці кіламетрах ад Гарадка і крыху далей ад Міхалова. Прыгожая, жывапісная ваколіца: лугі, поле, лес. Дзернякова налічвае сорак гаспадарак. Вёска за апошнія гады намнога папрыгажэла. Новыя дамы, аборы, клуні. На дамах тэлевізійныя антэны, дома пралькі і лядоўкі. Добра гаспадараць асабліва такія сяляне, як Эдвард Бялы (солтыс з 15-гадовым стажам, грамадскі апякун і радны), Юры Тарасевіч, Мікалай Неміровіч, Аляксей Лукошык, Ян Тарасевіч, Фёдар Трахімчык, Юзэф Яроцкі.

Для прыкладу, солтыс сёлета прадаў 40 свіней і 6 кароў. Іншыя сяляне — таксама па 10—20 свіней. Сяляне ўсё яшчэ не могуць дачакацца падзелу супольных пасбішчаў. Дагэтуль выкарыстоўваюцца яны нерацыянальна. Пасля падзелу сяляне завялі б на лугах высокаўраджайныя сарты траў. Гэта дазволіла б таксама павялічыць колькасць кароў. Іншай справай, якую трэба вырашыць, з'яўляецца справа лясной звярыны, а перш за ўсё дзікаў, якія знішчаюць ураджай.

У вёсцы ёсць даволі многа маладых дзяўчат і юнакоў. Моладзь асабліва ў доўгія асеннія і зімовыя вечары не мае куды падзецца. Летам арганізоўвалі яны прысвяткамі, а таксама ў суботу або нядзелю патанцоўкі ў так званай зялёнай святліцы, якую пабудавалі ля дарогі пад лесам. У апусцелым школьным будынку можна было б арганізаваць клуб. У тым то і бяда, што ані ГС у Гарадку, ані прадпрыемства „Рух“ у Беластоку не зацікаўлены ў гэтым. Аказваецца, што Дзернякова — незаяздное месца. Ужо зараз прадстаўнікі зацікаўленых устаноў прадбачваюць нерэнтоўнасць. Ды і зімою цяжка будзе сюды даехаць, гавораць. Лясная ваколіца.

Моладзь не мае ніякай дапамогі. Навесну хацела яна садзіць дрэўцы ля школы і пры дарозе. Гмінныя ўлады пабяцалі даць дрэўцы (сам начальнік гміны), але на гэтым і засталося.

**Я. Ц.**

# МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

## 3 706 МІЛЬЁНАЎ ЖЫХАРОЎ ЗЯМЛІ Ў 1971 г.

Насельніцтва зямнога шара к сярэдзіне 1971 г., павялічыўшыся за год на 74 мільёны, склала 3 706 мільёнаў чалавек. Аб гэтым паведаміў „Дэмаграфічны штогоднік“ ААН, які нядаўна выйшаў у свет. Цяпер штогадовы прырост насельніцтва складае два працэнты, і калі гэты тэмп прыросту захаваецца, то праз 33 гады колькасць жыхароў на нашай планеце падвоіцца.

Штогоднік таксама паведамляе аб тым, што звыш паловы насельніцтва Зямлі жыве ў Азіі: 2104 мільёны чалавек, што складае 56,7 працэнта ўсяго насельніцтва. У Афрыцы жывуць 354 мільёны (9,5 працэнта насельніцтва Зямлі), у Паўночнай Амерыцы — 327 мільёнаў (8,8 працэнта), у Паўднёвай Амерыцы — 195 мільёнаў (5,3 працэнта), у Еўропе — 466 мільёнаў (12,6 працэнта), у Аўстраліі і Акіяніі — 19,7 мільёна (0,5 працэнта) і ў Савецкім Саюзе — 245 мільёнаў (6,6 працэнта). (т)



 

У ГОСЦІ ДА СУСЕДЗЯЎ

# БЯГОМ ПА ПРАСПЕКТУ ЛЕНІНА

### (ЗАЙГРАЙ НАМ, МУЗЫКА)

Кляп-кляп! Прычыніліся раззяўленыя ад захаплення роцікі сыноў.

Бліснь! Сонечным зайчыкам стрэліла люстэрка ў руцэ маёй лепшай палавіны.

Кіруй дзюбаю проста ў галоўную стругу — загадваю... Ясна, што не жонцы, а ўсяму сямейнаму караблю.

Часу ў абрэз. Бягом, міленькія. Пыхпых, і мы ізноў на праспекце. Плывем упярод разам з людскім патокам. Імкнемся на спатканне з чалавекам, які так глыбока запусціў карэнні ў родную зямлю, што нават смерць іх выдзерці не здолела. На спатканне з Якубам Коласам.

Каржакаваты, насаты дзядзька — ён цяжкаю глыбаю рассеўся сярод плошчы свайго імені.

Край мой родны! Дзе ж у свеце
Край другі такі знайсці,
Дзе б магла так, поруч з смеццем
Гожасць пышная ўзрасці?

На гэтых словах ён, здаецца, затрымаўся, гартаючы раней напісаныя старонкі.

Пёрышкам пры ім малы музыка, які па ягонай правай руцэ смыком скрыпку будзіць. Там і дзяўчо прыкурнула — песняю заварожанае.

І „Сымон-музыка" іграе. Іграе з дазволу вялікага песняра, які чарам натхнення ўліў пераможную моц у дзіцячыя кволыя рукі.

А скрыпіца галасіла
Смутнай восені дажджом,
Адчувалася ў ёй сіла,
Што лілася ручаём...

Задрыжалі, здаецца, пальцы, прыціскаючыя тыя, што трэба, струны.

Павярнуліся галовы
У той бок, дзе граў Сымон,
І спыняе ўсе размовы
Гэтых струн прыўдалы звон.

Адзін Колас, гэты вялікі дырыжор сэрцаў чалавечых, у другі бок спаглядае...

І енкнула струна... Бо там:
Шуміць, кіпіць, бурліць змаганне
За шчасце, волю і свабоду.

Там ужо не музыка смыком, а дзед Талаш рулёю стрэльбы водзіць. Не сам ён. На маладосць абапіраецца. Хлапчаня-падлётак разам з ім зорка за ворагам сочыць. Суровы дзедаў твар. І не дрыжыць рука, хоць на левай шчацэ, якраз на барадаўцы, сляза, здаецца, павісла.

Волі, волі і прастору!
. . . . . . . . . .
Ён не просіць... Жадае!!!

Пакуль разгублена водзіш туды-сюды вачыма, пясняр у іншым месцы свой запаветны сшытак адчыніўшы, здаецца, мовіць:

Ты пачуеш голас мае песні,
Мыслі твае праясняцца,
Згіне цемра, як гінуць туманы
У блеску сонца...

І дзіва. І так яно. Ты ізноў у залітым сонцам Мінску, які гудзе працоўным гулам, як вулей падчас мёдазбору. І ўжо бяжыш... Куды? Ясна, што па кветкі. Дзве жмені каляровых, жывых, іскрыстых расою.

Адну Коласу зложыш за тое, што
Панёс ён людзям песень дар —
Агонь душы і сэрца жар,
Панёс пяснярскай каляінай.

Другую, вяртаючыся, Купале ахвяруеш. Не ты адзін. Шмат кветак ля ягоных ног. У знак пашаны, падзякі, кахання.

Многа мне помнікаў давялося бачыць. Паэтам іх пераважна на магілках ставяць — ды і то не заўсёды.

А гэтыя два жывуць. Жывуць і валодаюць, здаецца, горадам-сталіцай. Адзін узвыш паглядае, другі ў зямлю моцна ўкараніўся. Два паэты. Два сэрцы ў грудзях аднаго народу. Сэрцы, злучаныя артэрыяй — Праспектам Леніна.

**Ларс**

## Куток практычных ведаў




### КАЛІ РАСЛІНА ХВАРЭЭ

Хваробы раслін могуць быць выкліканы не толькі дзякуючы шкодным для іх арганізмаў бактэрыям і грыбу. Прычына „дрэннага самаадчування" расліны можа ляжаць таксама ў неадпаведным абыходжанні з ёю. Калі вазоны вашыя жоўкнуць і трацяць лісцё, найчасцей гэта азначае, што вы іх занадта многа паліваеце, альбо якраз наадварот — паліваеце занадта рэдка. У такіх выпадках няцяжка паставіць адпаведны дыягназ.

Калі вымем з данічкі карэнную брылу разам з зямлёю і заўважым, што карэнні высушаны, то будзе гэта абазначаць, што крытычны стан выкліканы быў не дзякуючы аднаразоваму занядбанню, а з прычыны недахопу вільгаці на працягу даволі доўгага часу. Можна спрабаваць яшчэ ратаваць расліну, устаўляючы яе разам з данічкай на 1—2 сутак у посуд з летняй вадою. Пасля гэтага перасаджваем яе ў свежую зямлю, абрываючы пры гэтым сухія карэнні. Калі расліна „ажыве", абрываем сухія галінкі і лісцё.

Калі ж мы паліваем расліну зачаста, то зямля будзе пахнуць тухлым, а ў карэннай брыле можна будзе ўбачыць прыгніўшыя карэнні, а часамі нават белаватых рабакоў. І зноў жа, перасадзіўшы расліну ў свежую зямлю, паабрываўшы раней прыгніўшыя карэнні і нармальна паліваючы, можна выратаваць расліну.

Празмернае прабыванне расліны на сонцы можа выклікаць тое, што лісцё яе будзе станавіцца чырвонае і скручвацца. Такую расліну лечым, паставіўшы яе ў халаднейшае цёмнае месца.

Зіма не з'яўляецца спрыяючым перыядам для раслін. Занадта нізкая або занадта высокая тэмпература ў кватэры не садзейнічае іх росту. І хаця для некаторых раслін зіма з'яўляецца перыядам адпачынку і павольнай вегетацыі, патрабуюць яны аднак адпаведнага догляду. Паўтараем, перш за ўсё трэба абмежаваць паліванне, не дапускаючы аднак да поўнага высушэння зямлі ў данічках. У час марозу вазоны неабходна знімаць з падаконнікаў прынамсі нанач. Праветрываючы пакой, неабходна трымаць іх здалёк ад адкрытых вокан і дзвярэй. Зразумела, што гэта падставовыя ўказанні, якія датычаць амаль усіх раслін. Паасобныя аднак расліны патрабуюць крыху розных умоў догляду. Напрыклад, для фікуса найбольш адпаведнай тэмпературай з'яўляецца 12—15°C, паліваем іх не замнога, калі выступяць карычневыя плямкі, змываем лісцё і пасыпаем азатоксам. Для прымулы найбольш адпаведнай з'яўляецца тэмпература 18—20 градусаў, для кактусаў 8—12 і г.д. Пеларгонія не патрабуе шмат вады. Дастаткова яе паліваць раз у месяц. А азалію паліваем штодзень кіпячонай летняй вадой.

**Гаспадыня**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Я разам з сястрой наведала мужа, які знаходзіўся ў бальніцы. Муж адчуваў сябе дрэнна і пастанавіў зрабіць завяшчанне. Гэта было ў нядзелю і не магло быць мовы аб запрашэнні натарыуса, або старшыні грамадскай рады. Таму муж папрасіў на сведкаў маю сястру і знаёмага чалавека, які наведаў якраз хворага сына і ў іх прысутнасці заявіў, што гаспадарку запісвае мне. Калі мы ўжо выйшлі, муж убачыў яшчэ аднаго знаёмага і папрасіў яго, каб пацвердзіў перад судом, што ён гаспадарку запісвае сваёй жонцы. Назаўтра ён памёр. Завяшчанне пасля яго смерці было спісана з удзелам усіх сведкаў, падпісана сведкамі і зложана ў натарыяльным бюро. Ці завяшчанне гэта важнае?

АДКАЗ: Гэта завяшчанне не важнае. У выпадку, калі пагражае хуткая смерць, а звычайнага завяшчання зрабіць немагчыма, можа быць зроблена завяшчанне ў форме вуснай. Змест завяшчання можа быць спісаны на працягу аднаго года або сцверджаны судом на аснове паказання сведкаў — на працягу шасці месяцаў. Аднак пры абвяшчэнні волі завяшчальнікам павінна быць адначасова трое сведкаў. Таму нельга лічыць за сведку знаёмага, якому завяшчаючы асобна выявіў змест свайго завяшчання. Не магла пры гэтым быць сведкам сястра жонкі. Пры састаўленні завяшчання ў кожнай форме не могуць быць сведкамі муж або жонка таго, на карысць каго завяшчанне зроблена, а таксама сваякі і павінаватыя першай або другой ступені. Злажэнне завяшчання ў натарыуса не мае значэння. Аб важнасці вырашае суд.

## Ці ведаеце што...

...у Беластоцкім ваяводстве сельскагаспадарчыя гурткі загаспадарылі каля 12 тысяч гектараў зямельных угоддзяў. Найбольш сельгасгурткі з Сакольшчыны — 3 440 га, Беластоцкага павету — 2 447 га і Гайнаўшчыны — 1 261 га.

...больш 44 „кулкі" на Беласточчыне загаспадарваюць больш 100 гектараў зямельных угоддзяў ПФЗ. (ця)

## Этнаграфічнае акенца



*Ручнікі і абрус з Ласінкі і Градзіска Гайнаўскага павету (Этнаграфічны музей у Торуні).*

Д. МАРОЗАЎ

# КРАХ АПЕРАЦЫІ „ЦЫКЛОН"

Насустрач Радэнштоку ішла калона грузавікоў. Праскочыўшы міма іх на поўнай хуткасці, лейтэнант заўважыў, што апошняя машына разварочваецца. Ён хацеў звярнуць, але шаша ўвайшла ў вузкую цясніну між двума ўзгоркамі, прамільгнуў міма цудам уцалелы кіламетравы слуп з лічбай чатыры. У гэты момант ён убачыў упераздзе групу. Ззаду яе ўсё гэтак жа павольна цягнулася павозка.

„Агульную трывогу ўзнімаць нельга, — мільганула ў галаве Радэнштока. — У машыне змесціцца яшчэ тры-чатыры чалавекі. Каго ж узяць? Вядома, Боле, Кругера і яшчэ двух у савецкай форме". Параўнаўшыся з павозкай, ён спыніўся.

Убачыўшы Радэнштока, дыверсанты спыніліся.

— Што здарылася, Радэншток? — спытаў Мішэль, падыходзячы да яго.

— Нас выдала старая, — лейтэнант стараўся гаварыць як мага цішэй. — Няхай людзі ідуць далей. Сядайце. Скажыце ім, што мы паедзем наперад.

— Гэта немагчыма, — адказаў Мішэль.

Ззаду на шашы пачуўся рокат грузавікоў, якія набліжаліся. Радэншток кінуўся да захопленай машыны, збіраючыся ўцячы адзін.

Дыверсанты занепакоіліся. Рыжы Кругер са здзіўленнем азірнуўся. Трэба было штосьці зрабіць і зрабіць неадкладна.

Мішэль адважыўся.

— Здраднік! — крыкнуў ён па-нямецку і, выхапіўшы пісталет, выстраліў лейтэнанту ў патыліцу.

Калона пераўтварылася ў натоўп, дыверсанты кінуліся да павозкі са зброяй. Мішэль ускочыў на падножку машыны, вырваўшы аўтамат у салдата, што сядзеў у павозцы. — Ні з месца, спыніць паніку, — закрычаў ён па-нямецку і ў гэта імгненне ўбачыў, як расхінуліся кусты паабапал дарогі. На шашу, замыкаючы групу ў цеснае кальцо, выходзілі савецкія аўтаматчыкі. З кустоў глядзелі ствалы кулямётаў.

— Кінуць зброю, — загадаў па-нямецку чыйсці ўладны голас.

Адным з першых шпурнуў на асфальт лейтэнант Кругер.

... У вызначаны час, а дзевятай гадзіне вечара, дзяжурны радыёстанцыі абвера пад Берлінам пачуў пазыўныя групы „Цыклон-Поўдзень"... Радыст хутка запісваў. „Сёння днём на дарозе да Чарнавіц знішчана машына з групай савецкіх афіцэраў на чале з падпалкоўнікам. Праз тунель у бок фронту за тры гадзіны прайшлі два эшалоны з тэхнікай, рыхтуемся да аперацыі № 1, паведамлю ў шэсць гадзін раніцы".

Радыст тэрмінова перадаў шыфроўку ў аддзел „Заграніца". Прыняў яе оберлейтэнант Лібель. Калі ён далажыў аб гэтым падпалкоўніку Мельцару, той адразу ж пазваніў генералу Крэбсу.

— Дзякую, падпалкоўнік, — сказаў генерал. — Прашу вас і ў далейшым тэрмінова інфармаваць мяне. Акрамя таго, складзіце спіс тых, хто вызначыўся ў падрыхтоўцы аперацыі. І, калі ласка, не перадавайце гэту справу ў рукі СД. „Цыклон-Поўдзень" — гэта наша заслуга.

Затым Мельцар пазваніў Клецу:

— Віншую вас, пан оберштурмбанфюрэр, аперацыя „Цыклон-Поўдзень" пачалася. Так. Можаце не хвалявацца, я ўжо далажыў аб гэтым генералу.

Паклаўшы трубку, Мельцар сказаў Лібелю:

Вы атрымліваеце суткі адпачынку, дарагі обер-лейтэнант, акрамя таго, можаце разлічваць на ўзнагароду.

— Дзякую вам, пан падпалкоўнік, я гатовы на ўсё для маёй радзімы.

Лібель выйшаў на вячэрнюю берлінскую вуліцу, асветленую зарывам пажараў.

Прайшло толькі трыццаць шэсць гадзін з таго моманту, калі ён адправіўся сустракаць капітана Шварцбрука на станцыі Зосен. І вось атрымана першая перамога ў чарговай бітве без выстралаў.

Атрымаўшы радыёграму „аб паспяховых дзеяннях групы", палкоўнік зразумеў, што адбылося за лініяй фронту. Цяпер радыст групы „Цыклон-Поўдзень" будзе працаваць не з-за страху, а па сумленню, перадаючы радыёграмы пад дыктоўку савецкіх контрразведчыкаў.

Не выключана, вядома, магчымасць таго, што СД паспрабуе пракантраляваць. Ну што ж, ён пастараецца дапамагчы і кантралёрам падзяліць лёс дыверсантаў з групы „Цыклон-Поўдзень".

Ён спыніўся на скрыжаванні. Прамы, як страла, праспект ішоў на ўсход. Можа гэта толькі здалося яму, што ў пацямнелым небе ўжо бачны зарніцы фронту, які ўсё набліжаўся. Колькі пройдзе яшчэ месяцаў і дзён, пакуль над пераможнай германскай сталіцай залунае сцяг Перамогі, узняты савецкімі воінамі? Шмат дзён, тысячы гадзін, падобных на толькі што перажытыя. Але гэтыя трыццаць шэсць не прайшлі марна — сёння ён дапамог наблізіць дзень перамогі над фашызмам.

Лібель хутка пакрочыў па вуліцы. Суткі адпачынку, шчодра падораныя Мельцарам, будуць вельмі дарэчы. Наперадзе шмат спраў. Аперацыя ж „Цыклон" яшчэ толькі пачынаецца. Але і ён сам пакуль яшчэ не выкарыстаў усіх магчымасцей сваёй групы.

Думкі падпалкоўніка перапыніў стук салдацкіх ботаў. Насустрач ішоў патруль. Салдаты старанна аддалі чэсць афіцэру. Ён адказаў. Потым прайшоў па праспекце яшчэ некалькі кварталаў і павярнуў у завулак.

Там яго чакаў „Фрэд".

# КАХАННЕ І ТЭЛЕФОН

Вечарам я сядзеў дома, нудзіўся і чакаў, што мне пазвоняць. Сапраўды, зазваніў тэлефон.

— Добры дзень, дарагі! — данеслася да мяне. — Пазнаў?

— Добры дзень, мілая! — уцешыўся я. — Як гэта „не пазнаў"?

— Ну, як жывеш? — спытала яна. Гэта была Каця. Кацю я кахаю даўно.

— Дзякую, мілая. А як тваё здароўе?

— Ды нічога, толькі цябе нешта не відаць! — сказала яна.

„Ах вось яно што! — падумаў я. — Слава богу, не назваў яе па імені. Гэта ж Надзя". Надзю я таксама даўно кахаю.

— А ведаеш, у філармоніі выступаюць японцы, — паведаміла яна.

„Так, гэта Надзя. Мы з ёю былі ў філармоніі, яна відаць, прывыкла".

— А як твая п'еса? — спытала яна.

„Не, гэта ж Таня! Я, здаецца, толькі ёй гаварыў аб п'есе!"

— Ну дык выходзі, я цябе чакаю!

— Дзе?

— Што значыць „дзе"? Як заўсёды, ля заапарка. Ты што, забыў?

„Ага, значыць, гэта Тамара. Гэта я з ёю сустракаўся ля заапарка.

І паімчаўся да заапарка.

Мяне чакала Зіна. Зіну я кахаю з дзяцінства...

**М. Берадзе**

## ТЭЛЕФОНАГРАМА

Гэта было ў першыя пасляваенныя гады. З павету звоняць у вёску.

Трубку знімае жанчына:

– Слухаю вас.

— Добры дзень.

— Добры дзень!

— А хто, выбачайце, слухае?

— Дзяжурная гміны.

— У вас папера знойдзецца пад руко?

— Ёсць.

— А аловак?

— І аловак ёсць.

— Тады запішыце, калі ласка, тэлефонаграму...

Мінае хвіліны чатыры-пяць.

— А ну прачытайце, што вы запісалі, — просіць голас у трубцы.

— А як я прачытаю, калі я непісьменная.

## СЕНСАЦЫЯ

У кабінеце дырэктара цырку раздаецца тэлефонны званок:

— Магу прапанаваць вам сенсацыйны нумар.

— Не трэба. Я ведаю ўсе сенсацыйныя нумары.

— Але мой асаблівы: я глытаю шаблю даўжынёй у метр.

— Э, я ведаю шмат людзей, якія глытаюць шаблю даўжынёй у метр.

— Так, але мой рост — усяго дзевяноста сантыметраў.

*Без слоў.*

# НІЎКА

*Авіяпошта.*

## У СУДЗЕ

Пракурор: З матэрыялаў справы відаць, што, апрача грошай, вы ўкралі яшчэ нямала вартасных рэчаў. Што вы можаце сказаць па гэтай прычыне?

Абвінавачаны: Не ў адных грошах шчасце, пане пракурор.

## МІНІБАЙКІ

### ЯК ТРЫ СВІНКІ ВАЎКА З'ЕЛІ

Жылі-былі тры свінкі. І напісалі яны куды трэба казку: „Жыў-быў адстаўны шэры воўк і было ў яго тры домікі: саламяны, драўляны і мураваны, а дзіцячыя яслі, між іншым, месцяцца пад адкрытым небам..."

Адабралі ў шэрага ваўка ўсе тры домікі. І з тых пор дзецям у яслях расказваюць: „Жылі-былі тры свінкі. У адной саламяны дом, у другой — драўляны, а ў трэцяй мураваны".

**М. Азаў, У. Ціхвінскі**

## ГУМАР З

### НА ПОШЦЕ

— Ваш ліст цяжкі, трэба яшчэ дзве маркі прыклеіць.

— Ну, паночку, тады ён будзе яшчэ цяжэйшы.

**... Ён зайздросціў сапсаванаму аўтамату: „Вось малайчына! Грошы бярэ, а не робіць нічога".**

**...Да вяселля гаварыў пра сэрца, пасля вяселля — пра страўнік.**

## З ЮГАСЛАВІІ

— Як ты думаеш, дарагі, добра будзе, калі мы сюды пасадзім дзядзьку Брану?

— Ды ты што?! Цётка Юля замучыць яго скаргамі на свае зубы і будзе прасіць, каб ён зрабіў новую каронку!..

— А калі мы цётку Юлю пасадзім у гэты канец стала?

— Да Мілана? Ты забыла, што яго жонка раўнуе яго нават да цёшчы дзядзькі Браны!

— Тады побач Браны пасадзім Розачку...

— Ты, відаць, зусім закруцілася! Розачка прыстане да яго з размовамі аб сваіх кошках, а ён, як і яго сэтэр, не пераварваюць нават напаміну аб іх!

— Ну, пасадзім побач з ім суседа Іозу.

— Толькі гэтага не хапала! Ці ж ты ведаеш, што пенсія Іозы на пяць дзінараў вышэйшая і што Брана не можа яму гэтага выбачыць!

— Ах, калі б...

— Што калі б?

— Калі б мы маглі сёння вечарам знікнуць! І яны хай рассаджваюцца ях хочуць!

## НА МЕСЯЦЫ

П'яны мужчына прыкмеціў у лужыне адлюстраванне Месяца:

— Глядзі — Месяц! Сядалі ж на яго, дык і я сяду.

Аж вось прыходзіць яшчэ адзін п'яны ды й пытае:

— Чаго гэта ты, галубок, у лужыне сядзіш?

— У якой там лужыне! На Месяцы!

— О! І я да цябе!

Сядзяць, балбочуць.

Прыйшоў міліцыянер:

— Што гэта вы тут робіце, хлопцы?

— Дык на Месяцы ж сядзім.

— А... Ну, дык пачакайце, я за вамі „лунаход" падашлю.

## НА АДНОЙ НАЗЕ

Гэта было восенню. Сеяў халодны вячэрні дождж. Выйшла на панадворак маці, а за ёю хвосцікам босы пяцігадовы хлопчык. Маці крыкнула:

— Сынок, ідзі ў хату, а то ногі змерзнуць...

А малы адказвае:

— Мама, дык я ж стаю на адной назе!

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Галіны Мароз з Гайнаўкі, а таксама Тамары Назарук і Ніны Зінчук з Вулькі Тэрахоўскай Гайнаўскага павету змяшчаем песню з рэпертуару Стэні Казлоўскай

### Nie tęsknię za nikim

Inni się kochają
I tęsknią, gdy trzeba się rozstać.
Nocą spać nie mogą
Bo miłość to sprawa nie prosta.

Czasem mówią dużo
A czasem do siebie wzdychają,
W kwietniu, w maju.

Ref.:
Ja nie tęsknię za nikim
I nie kocham nikogo,
Robię to na co właśnie mam ochotę,
Noszę z wiśni kolczyki,
Chodzę jaką chcę drogą,
Napotkanym znajomym głupstwa plotę.

Jak ta głupia miłość
Codziennie nam życie utrudnia.
Zakochani pół dnia się kłócą
I godzą się pół dnia.

Spojrzeć im nie wolno wokoło
Bo zazdrość na straży,
Koniec marzeń.

Ref.:
Ja nie tęsknię za nikim...

Chłopak pannę rzuca,
Bo inna Romea w nim widzi,
Potem ją zostawia,
Bo ona tak samo go nudzi.

Inni niech wędrują zuchwali
Zdobywcy w noc ciemną,
Lecz nie ze mną.

Ref.:
Ja nie tęsknię za nikim...

Innym ludziom życie
Ta miłość na zawsze złamała,
Widząc ze statystyk
To liczba niestety niemała.

Ile osób z okna,
A ile z mosteczka do wody,
Mówić szkoda.

Ref.:
Ja nie tęsknię za nikim,
Ja naprawdę mam szczęście.
Jak te ptaki tam podobne na niebie.
Noszę z wiśni kolczyki,
I za nikim nie tęsknię
I nikogo nie kocham — oprócz ciebie.

## СТРАШНЫЯ СЛОВЫ

Васілёк скардзіцца бацьку:

— Татку, а наша бабуля лаялася сёння страшнымі словамі!

— Як?

— Яна сказала: „А каб гэты няшчасны тэлевізар папсаваўся сёння перад самюсенькім хакеем!"

*Сучасныя пляткаркі.*

# КУРЁЗЫ

## ЗАЛАТАЯ КНІГА... МЯНУШАК

...З выпадку дня нараджэння італьянскага міністра пошт і тэлесувязі тэлефаністкі Палерма ўручылі яму „залатую кнігу". У ёй запісаны ў алфавітным парадку 2804 крыўдныя мянушкі, якімі абаненты, незадаволеныя дрэннай работай тэлефоннай сеткі, узнагародзілі іх за прайшоўшае паўгоддзе.

## „КЛУБ ПАЧЦІВЫХ МУЖЧЫН"

У Нью-Йорку створан „Клуб пачцівых мужчын". Параграф 17 статута гаворыць: „Лічым за відавочнае, што член клуба, размаўляючы з жанчынай па тэлефоне, здымае з галавы капялюш".

## ПАШТАЛЬЁН У ЛАБІРЫНЦЕ

Жыхарам Бразіліі нярэдка даводзіцца па некалькі месяцаў чакаць атрымання пісьмаў, адрасаваных ім сваякамі і знаёмымі. Вінаватыя ў гэтым зусім не адпраўшчыкі і яшчэ менш таго — паштовыя работнікі.

Уся справа ў тым, што ў Бразіліі, па няпісаных традыцыях, розным вуліцам раду гарадоў у свой час даваліся адны і тыя ж назвы, прычым у межах нават аднаго і таго ж горада. У выніку прафесія пашталь'ёна ў Бразіліі стала адной з самых галаваломных. Мяркуйце самі: ці лёгка ім працуецца, напрыклад, у Рыо-дэ-Жанейра, дзе існуе больш чым сто пяцьдзесят вуліц, назва якіх не адрозніваецца адна ад адной ніводнай літарай!

## ПРЫГАВОРАН... ДА КАСТОРКІ

Суддзя Рой Райт са штата Джорджыя вынес цікавы прыгавор чалавеку, які ўкраў у аптэцы вялікую бутэльку з касторкай. Яму трэба, знаходзячыся ў зняволенні, штодзённа выпіваць тры сталовыя лыжкі касторкі.

# Між намі

*Ашчаджайце мыла на замыльванні вачэй!*